Opłata pocztową
uiszczono ryczałtem

Цана асобнага нумару 20 грошаў.

# НАРОДНАЯ СПРАВА

Выходзіць два разы ў тыдзень.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12—6. (Wileńska 12, m. 6). Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзён. Адміністр. ад 9 да 3.

Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 1 зл. 50 гр. Для заграніцы ўдвая даражэй. Перамена адрэса 30 гр.

Нярпынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукаванага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грошы і на 4 стр. 15 гр. за радок пэтыту ў 1 шпальту.

№. 37 Вільня, Аўторак, 23-га лістапада 1926 г. Год I

# НАША НІВА.

*(23-га лістапада 1906 г.—23-га лістапада 1926 г.).*

Дапаўненьнем да прэсавага юбілею, які мы сьвяткавалі ў сувязі з 20-лецьцем выхаду першае легальнае беларускае часопісі „Нашае Долі“, зьяўляецца сяньняшняя двадцатая гадавіна закладзінаў **„Нашае Нівы“**, замяніўшае сваю папярэдніцу. Але ня самы факт выхаду „Нашае Нівы“ зварачае на сябе нашу ўвагу, а тая работа, што была зроблена, дзякуючы істнаваньню газэты ў працягу дзевяцёх гадоў — без перарыву. „Наша Ніва“ дала сваё імя цэламу пэрыаду ў гісторыі нашае адраджэнскае літэратуры: яна была тым адзіным месцам, дзе нашы маладыя паэты мелі магчымасьць выступаць публічна з сваімі вершамі, дзе знаходзілі прыхільную крытыку і добрую раду, дый маральнае падтрыманьне ў працы.

„Нашаніўскі“ пэрыад у беларускай літэратуры абыймае сабой і Коласа, і Купалу, і Цішку Гартнага, і Багдановіча, і Зьмітрака Бядулю, і Гарэцкага, і Гаруна, і цэлы доўгі сьцяг імёнаў, якімі сяньня мы можам спрдвядліва пахваліцца. Тут была галоўная кузьня беларускае адраджэнскае ідэалёгіі ажно да выхаду з Вільні расейцаў у 1915 годзе, калі значная лічба беларускіх працаўнікоў пакінула адвечную сталіцу нашага краю. І затым-та мы сяньня памінаем дзень выхаду першага нумару „Нашае Нівы“.

Пасьля канфіскацыі трэцяга нумару „Нашае Долі“ зрабілася ясным, што газэце царская ўлада жыць ня дасьць. Дый рады працаўнікоў газэты працярэбіліся: першы пакінуў рэдакцыю Пранук Умястоўскі і цішком выехаў вучыцца ў Пецярбург. Сьледам за ім прымушана была выехаць заграніцу Цётка, якую цягнулі пад суд за арганізацыю работнікаў у Нова-Вілейску. За рэштай сяброў рэдакцыі (—пераважна нелегальных) пачалі пільна сачыць шпікі. І вось, Цэнтральны Камітэт Беларускае Сацыялістычнае Грамады пастанаўляе выпусьціць яшчэ толькі адзін — чацьверты—нумар Н. Д., у якім і абвясьціць аб спыненьні выдавецтва.

Праўда, выходзяць яшчэ №№ 5 і 6 „Нашае Долі“, але ўжо бяз учасьця арганізацыі: іх выдае на сваю руку адказны рэдактар-выдавец Тукеркес, спадзяючыся на магчымы заработак. Містыфікацыяй аб поўным разгроме Грамады яму ўдаецца прыцягнуць дзеля рэдагаваньня газэты ведамага сваей прыхільнасьцяй да беларускага руху пэпэсаўца Адама Гедвіллу, які павёў газэту ў яшчэ больш рэзкім тоне, чым ранейшы, дык абодва нумары, якія выйшлі пад яго кіраўніцтвам, былі сканфіскаваны. №№ 5 і 6 з боку мовы былі выданы вельмі блага і апраўдывалі сябе толькі ярка рэвалюцыйным зьместам.

Першы нумар „Нашае Нівы“ выйшаў паміж 4 і 5 нумарамі яе папярэдніцы. Выдавецтва ўзяў на сябе нейкі безработны лясьнічы, абураны на ўладу за звальненьне яго са службы, як каталіка,—Зыгмунт Вольскі. Кіравала ім жаданьне заклясьці нейкае даходнае прадпрыемства, якім — судзячы паводле вялізарнае папулярнасьці „Нашае Долі“—і магло-б быць выдаваньне беларускае газэты. Але жаданьне беларускіх дзеячоў стварыць газэту больш сталую, разьлічаную на даўжэйшае істнаваньне ў часе пачаўшаеся палітычнае рэакцыі ў Расеі, — з аднаго боку, ды баязьнь адказнага рэдактара караў за кожнае сьмелае слова, — з другога, зрабілі тое, што лічба друкаваных і прадаваных экзэмпляраў „Нашае Нівы“, шмат паблеклае раўнуючы з папярэдніцай, зразу паменшала: яе разыходзілася ўсяго толькі каля 3.000 — гражданкай і лацінікай разам. Ведама, на паніжэньне тыражу газэты не асталіся бяз уплыву і рэпрэсіі, якія паліцыя тасавала па вёсках да падпішчыкаў і кольпортэраў „Нашае Долі“. Дык спадзяваных даходаў выдавец ня меў і хутка зрокся гэтага „нявыгаднага прадпрыемства“.

У першым складзе рэдакцыі „Нашае Нівы“ былі: Іван і Антон Луцкевічы, Люцвік Кучэўскі і Зыгмунт Вольскі — як адказны за яе перад уладай. Пры выпуску першага-ж нумару газэты выявілася ідэйнае разыходжаньне паміж першымі двума і апошнімі. У перадавіцы пачаткова было напісана, што „мы будзем служыць усяму беларускаму **працоўнаму** народу“. Проці гэтага выступілі непартыйныя сябры рэдакцыі — Кучэўскі і Вольскі, і голас апошняга, як адказнага рэдактара і ўласьніка выдавецтва, пераважыў: перадавіца была перапраўлена, і ў ёй слова „працоўнаму“ народу аказалася замененым словам „скрыўджанаму“; адпаведна да гэтага зроблены былі і другія папраўкі. Матывавалася гэта патрэбай паказаць перад уладай, што газэта стаіць не на клясавым становішчы, а на агульна-нацыянальным, ды гэтак ўратаваць яе быт, адмежаваўшыся фармальна ад „Нашае Долі“...

Ідэйныя канфлікты сярод сяброў рэдакцыі з кожным далейшым нумарам газэты завастраліся, — асабліва-ж у сувязі з набліжаўшымися выбарам і ў Дзяржаўную Думу. Дык прадстаўнікі Грамады з радасьцяй прывіталі жаданьне грам. Вольскага разьвязацца з выдавецтвам пад варункам звароту яму зробленых затрат грашмі. Дзякуючы ахвярнасьці Івана Луцкевіча, грошы знайшліся. Выдавецтва было перададзена Аляксандру Ўласаву, сябру Ц.К. Грамады, які ўзяў на сябе адказнасьць за газэту так-жа і як рэдактар яе, пачынаючы з пятага нумару (8-га сьнежня 1906 году). Уласаў з гэтай мэтай перабраўся на сталае жыцьцё з сваей Мігаўкі (каля Радашкавіч) у Вільню, і ў складзе рэдакцыі (Уласаў, Іван і Антон Луцкевічы) ізноў запанаваў адналіты дух. У гэтым складзе рэдакцыя кіравала газэтай у працягу цэлага раду гадоў.


Год 1. Вільня 10 (23) лістапада (ноября) 1906 г. № 1.

Наша Нива

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА З РЫСУНКАМИ

ВЫХОДЗИЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ рускими и польскими літэрами.

Ведама, без рэпрэсіяў абыйсьціся не магло: у 1907 годзе былі сканфіскаваны №№ 8, 9 і 12. Але дзьве апошнія канфіскацыі былі судом адкінены, і да адказнасьці пацягнулі рэд. Уласава толькі за № 8—за стацьцю „Дума і Народ“. За зьмяшчэньне гэтай стацьці, запраўды дужа вострай, Уласаў быў засуджаны на 2 месяцы крэпасьці і кару сваю адбыў у віленскім вастрозе— на Лукішках. Больш канфіскацыяў газэты ажно да 1915 году ня было.

З кожным годам істнаваньня газэты прыбывалі і выпрацоўваліся новыя сілы — паэты і журналісты. У Вільню, як у свой натуральны цэнтр, цягнуцца хоць на колькі дзён усе сьвядомыя беларусы. Сюды прыяжджае ў госьці Максім Багдановіч. Праходзяць праз рэдакцыю і Колас, і Цішка Гартны. На даўжэйшы час асядаюць Ядвігін Ш. Ластоўскі, Палуян, Бядуля, Гарэцкі, урэшце — Янка Купала. У апошнія гады перад вайной кіруюць газэтай сьпярша Ластоўскі, пасьля—Купала. Выдавецтва фінансуе ад самага пачатку і да канца Іван Луцкевіч.

Каб паўней выявіць тое значэньне, якое мела для прабуджэньня беларускага адраджэнскага руху „Наша Ніва“, трэба адзначыць тыя тысячы няведамых рэдакцыі асабіста сялян і работнікаў, вучыцялёў, працоўных інтэлігентаў і студэнтаў, якія слалі ей свае карэспандэнцыі, вершы, артыкулы, дый проста пісьмы — з просьбай аб раду і ідэйнае кіраўніцтва. Трэба адзначыць вялізарны ўплыў газэты на школьную моладзь—вучняў гімназіяў, віленскае хіміка-тэхнічнае школы, праваслаўнае духоўнае сэмінарыі. Трэба адзначыць і тое, што тут атрымаў сваё „беларускае хрышчэньне“ цэлы рад больш ці менш выдатных беларускіх дзеячоў, пачэсна запісаўшых сваё імя ў гісторыі беларускага адраджэнскага руху.

У 1920 годзе грам. Ант. Луцкевічам была зроблена спроба ўзнавіць „Нашу Ніву“ — сьпярша ў пастаці зборніку, а пасьля тыднёвіка, як было да вайвы. Але толькі дзевяць нумароў было выпушчана ў гэтым новым выданьні: істнаваўшая тады ваенная цэнзура з кожнага нумару выкідала сярэднім лікам чацьвёртую частку матар'ялу, а „чуласьць“ яе да адносінаў беларусаў да Польшчы была такая, што слова „Польшча“ дапускалася наагул толькі ў сувязі з нейкімі хвалебнымі эпітэтамі. Выражэньне, што „адны цягнуць Беларусь да Масквы, а другія — да Польшчы“, лічылася ў другой сваей часьці „праступным“ і канфіскавалася панамі цэнзарамі, пры чым, ясна-ж, сэнс стацьцей груба скажаўся. Дык на дзявятым нумары выдавецтва было прымушана спыніцца... Так скончылася спроба ўзнавіць старую нашаніўскую працу пры новых палітычных варунках, запанаваўшых у Заходняй Беларусі.

# Дзе выхад?

„Паводле справаздачы Дзяржаўнае Управы Пасрэдніцтва Працы на 20 лістапада, у Вільні лічба зарэгістраваных безработных дасягала агулам 4,281 душ. Гожа дадаць, што безрабоцьце стала з тыдня на тыдзень павялічваецца“ („Kur. Wil.“).

Гэта—ў Вільні. А вось цыфры аб безрабоцьці ў паветах Віленшчыны:

„Стан безрабоцьця ў Віленшчыне выражаецца цыфрай 6,000 душ. У тым ліку Віленскі павет мае 506 безработных, Ашмянскі — 501, Сьвянцянскі — 2,000, Браслаўскі—400, Лідзкі — 750, Пастаўскі—600, Маладэчанскі—300, Вялейскі—1,000. Разам—6,057“. („Rzeczpospolita“).

Прамысловасьць—прыкладам гарбарская, якая некалі ў Вільні працьвітала,— „калі не ўпадае, дык — раўнуючы з станам яе 12 год назад — не пасоўваецца наперад ні на крок“ („Kur. Wil.“). Другія галіны прамысловасьці—выразна заміраюць...

„Таргоўля ў Віленшчыне, раўнуючы да стану яе ў перадваенныя часы, знаходзіцца цяпер у стане ўпадку („Kur.Wil.“),

Вось жменя фактаў і цыфраў, якія найлепш паказуюць, у якім цяжкім эканамічна палажэньні знаходзіцца ня толькі Віленшчына, але і ўся Заходняя Беларусь наагул. Калі дадаць да гэтага йшчэ малазямельле ў беларускай вёсцы і вялізарнае зьмяншэньне магчымасьці заробку ў сувязі з засяленьнем краю польскімі асаднікамі, дык абраз будзе йшчэ больш поўны...

Гдзе прычыны такога сумнага зьявішча? Ведама, першая прычына — гэта той сацыяльны лад, які рупіцца выключна аб інтарэсы буржуазных клясаў і хоча ўсе цяжары ўтрыманьня дзяржаўнага жыцьця ўзлажыць на плечы працоўных масаў—сялян і работнікаў. Але ёсьць і другая вельмі паважная прычына эканамічнага заняпаду Заходняе Беларусі: „адрэзаныя ад Коўны, Лібавы, Клайпэды—з аднаго боку, ды ад Украіны—з другога, мы перасталі гаспадарча жыць, ды пачалі толькі вэгетаваць (мадзець)“—піша галоўны публіцыст польскіх „дэмакратычных“ дзяржаўнікаў у „Kur. Wil.“, востра выступаючы проці штучнасьці тых граніц, якімі парэзаны землі колішняга Беларуска-Літоўскага гаспадарства.

Сучаснае жыцьцё народаў выразна разьвіваецца ў кірунку гаспадарчага аб'яднаньня нацыянальных тэрыторыяў Толькі-ж розныя нацыяналізмы і супярэчнасьці ў інтарэсах буржуазіі перашкаджаюць такому аб'яднаньню: буржуазія йдзе да яго ня шляхам прызнаньня правоў на самастойнасьць кожнае нацыянальнае тэрыторыі, але шляхам заваяваньня слабейшых з іх і нацыянальнага зьніштажэньня „інароднага“ насяленьня. І галоўны публіцыст „Kur. Wil.“, які дужа добра разумее, кудой ідзе сучаснае жыцьцё, зусім правільна бачыць адзіны ратунак з сучаснага заняпаду нашага краю—ў аб'яданьні на падставе фэдэрацыі ўсіх краін, з якімі зямля нашая стыкаецца,—забыўшыся толькі чамусьці аб Латвіі і.... Вялікарасеі! Але сьвядомым баламуцтвам з ягонага боку зьяўляецца жаданьне пераканаць, што дзеля такога аб'яднаньня можа быць зроблена польскай буржуазіяй: калі-б яна і зьдзейсьніла думку пана Бора аб польска-літоўска-беларуска-ўкраінскай фэдэрацыі, дык, як жыцьцё гэта навочна нам паказала, такая „фэдэрацыя“ зразу-ж абярнулася-бы ў яшчэ горшую кабалу для беларускіх, украінскіх і літоўскіх масаў, чым цяперашняя... Мы судзім па тым, што ёсьць і што мы бачым, а не па тым, што нехта хацеў-бы бачыць... Тым балей, што аб „фэдэрацыі“ пералічаных народаў пішуць людзі, якія йдуць да яе шляхам прызываў *да разьбіцьця кожнае паважнейшае спробы арганізацыі сілаў нашых працоўных масаў, прадстаўляючых адзіную падставу нашае самастойнасьці наагул і нашых нацыянальных ідэалаў*!

Не, панове! Не буржуазія з яе „лігамі народаў“ і ўціскам найслабейшых з іх можа зьдзейсьніць ідэю гаспадарчага аб'яднаньня розных нацыянальных тэрыторыяў, а толькі тая сіла, якая ўсюды так магутна нарастае і якой будучына суліць бяссумліўную перамогу: сіла працоўных! Мы верым, што толькі гэтая сіла, а ня хто іншы, здолее папрвіць тое, за што „Kur. Wil.“ вінаваціць так рашуча польскіх палітыкаў, падпісываўшых Рыжскі Трактат. І мы ня можам верыць у „фэдэралістычную“ шчырасьць людзей і партыяў, якія так рашуча заклікаюць польскую ўладу да барацьбы з самаарганізацыяй беларускага сялянства і работнікаў у рамках Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады! „Фэдэрацыя-ж“, будаваная панаючай на часьці Беларускіх, Украінскіх і Літоўскіх зямель польскай буржуазіяй—шляхам разгрому творчых сілаў працоўных,—гэта *адна мана*!

# Сойм аб бюджэце.

### Агульная дыскусія ў справе бюджэту на 1927 год.

Трэба адзначыць нейкую надзвычайную стрыманасьць паноў паслоў — ад эндэкаў да пэпэсаў — у крытыцы дзеяльнасьці ўраду пры разглядзе пададзенага ім бюджэту на 1927 год. Адны шчыра... баяцца „бізуна“, другія — ня хочуць біць сваіх былых „таварышоў“, каб ня біць сябе самых...

### Прамова эндэцкага лідэра.

Першы, як заўсёды, прамаўляў эндэк **п. Гломбіньскі.**

Ен сцьвярдзіў нарушэньне ўрадам Канстытуцыі—у сувязі з „урачыстым адкладам“ працы Сойму. Сцьвярдзіў, што прэсавы дэкрэт, не дазваляючы „зьневажаць“ навет дробных урадоўцаў, дазваляе ня толькі лаяць, але і тэрарызаваць найвышэйшыя дзяржаўныя ўстановы, як Сойм і Сэнат, чым—і пасьля дэкрэту — займаецца ўся ўтрымліваная ўрадам прэса... З забойчай іроніяй казаў эндэцкі прафэсар, што дарэмна ўрад думае, быццам даволі толькі шэльмаваць заканадаўчую ўладу ў дзяржаве, каб тым самым ужо падняўся аўтарытэт выканаўчае ўлады... Ядавіта пратэставаў і проці таго, што дагэтуль „не ўдалося — запраўды ці „жэкомо“— выкрыць спраўцаў нападу на пасла Зьдзеховскага“.

Прамоўца кажа, што палітыка ўраду „ўнясла наагул вялікую няпэўнасьць ды няяснасьць, навет нейкую таямнічасьць — у-ва ўсю сыстэму дзяржаўнай палітыкі — увутранай і заграгічнай“... Палітыка, палітычная праграма ўраду — вялікая тайна, сэкрэт, які ўрад пакуль-што яшчэ не адкрыў нікому... Можа — затым, што ня ведае гэтай тайны і сам?! Край пачуў дагэтуль толькі словы міністра фінансаў, але той не сказаў аб палітыцы ўраду ніводнага гука... Прэм'ер, як хаваўся дагэтуль, так хаваецца і далей... Больш таго: край ня ведае навет таго, „да якога палітычнага ладу нашай дзяржавы імкнецца ўрад?“. Мы чуем толькі чуткі ды пагрозы нейкім далейшым „пераваротам“ — з „бутэрброднай прэсы“ ў краі, ды—з прэсы заграгічнай... А мы, паслы, быццам паклікаLныя (пасланыя народам!) якраз дзеля вырашэньня гэтых рэчаў, ніякіх выясьненьняў ад „мяродайных колаў“ ня маем... Ці мае быць у Польшчы новы „фэдэралістычны пераварот“—на падставе ўвядзеньня „тэрытарыяльнай аўтаноміі“ (ну, гэта дык нейкія эндэцкія жарты!—Рэд.); ці мае быць зроблены пераварот манархічны, аб чым мы чуем усюды, толькі ня ў Сойме?.. Усе чагосьці чакаюць, але ніхто нічога ня ведае... Дый каб яшчэ рыхтавалася манархія, як у Англіі, ці такая „канстытуцыйная“, як... у Італіі, дык эндэкі-б яшчэ згадзіліся... Але ходзяць чуткі, быццам

